• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

24 верасня 1996 г. аўторак, № 233 (23036)



# ЗВЯЗДА

## МОЛАДЗЬ ЧАКАЕ АД ДЗЯРЖАВЫ КАНСТРУКТЫЎНАГА ВЫРАШЭННЯ СВАІХ ПРАБЛЕМ

Увесь спектр маладзёжнай палітыкі быў у цэнтры ўвагі ўдзельнікаў першага рэспубліканскага маладзёжнага форуму «Моладзь Беларусі — за стабільнасць і прагрэс», які прайшоў 20-21 верасня ў Мінску. Вялікая ўвага да гэтага мерапрыемства з боку Прэзідэнта і кіраўнікоў практычна ўсіх міністэрстваў толькі пацвердзіла тую аксіёму, што менавіта маладым суджана будаваць будучыню сваёй дзяржавы, і іх думка павінна ўлічвацца пры правядзенні не толькі маладзёжнай палітыкі.

Асаблівы статус форуму маладыя людзі вырашылі выкарыстаць, што называецца, на ўсе сто. Звыш пяцісот пытанняў паступіла ў гэтыя дні да кіраўніка дзяржавы, на большасць з якіх ён адказаў на пленарных пасяджэннях. Шмат вострых пытанняў было адрасавана і міністрам, якія працавалі на працягу двух дзён з прадстаўнікамі грамадскіх маладзёжных арганізацый у секцыях. Маладыя людзі, здавалася, вырашылі «выціснуць» з іх усю інфармацыю аб тым, якім чынам тое ці іншае міністэрства можа дапамагчы ў ажыццяўленні канкрэтных праектаў і якую падтрымку яно можа аказаць ім у лабіраванні тых або іншых праграм на дзяржаўным і міждзяржаўным узроўнях. Увогуле, размова з членамі ўрада аказалася больш чым сур'ёзнай. І вынікам яе сталі ўзважаныя і прадуманыя прапановы, якія падрыхтавалі ўдзельнікі форуму.

Зрэшты, як адзначыў на форуме Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, галоўнае, каб працавала сама моладзь, і не толькі ў цэнтры, але і на месцах. Толькі тады можна будзе паспяхова ажыццяўляць усе прапановы, выпрацаваныя ўдзельнікамі форуму «Моладзь Беларусі — за стабільнасць і прагрэс».

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

## ШАРЭЦКАМУ СЯМЁНУ ГЕОРГІЕВІЧУ

**ПАВАЖАНЫ СЯМЁН ГЕОРГІЕВІЧ!**

Прыміце мае віншаванні са знамянальнай падзеяй у Вашым жыцці — 60-годдзем з дня нараджэння.

Упэўнены, што як кіраўнік Вярхоўнага Савета Вы будзеце рабіць усё, што ад Вас залежыць, на карысць і для працвітання нашай краіны.

У дзень юбілею жадаю моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту Вам і Вашай сям'і.

**З павагай Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

23 верасня 1996 года.

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР УРУЧЫЎ УЗНАГАРОДУ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Урачыстасці, прысвечаныя 25-годдзю мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» і 40-годдзю музея абароны Брэсцкай крэпасці, прайшлі 20 верасня ў горадзе над Бугам. У цырымоніі ўскладання вянкоў да Вечнага агню Мемарыяльнага комплексу прыняў удзел прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір. «Мы зноў і зноў уваскрашаем у памяці вобразы доблесных абаронцаў Брэсцкай крэпасці, якая была і працягвае заставацца агульным помнікам загінуўшым для ўсіх народаў былога Саюза», — сказаў ён, вітаючы ветэранаў, абаронцаў цытадэлі і гасцей горада, якія сабраліся на ўрачысты сход у памяшканні абласнога тэатра драмы і музыкі.

Кіраўнік урада зачытаў указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь аб узнагароджанні мемарыяльнага комплексу Ганаровым дзяржаўным сцягам і ўручыў сцяг яго калектыву. Ганаровымі граматамі Кабінета Міністраў былі ўзнагароджаны лепшыя работнікі мемарыяла.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## СТО ДОЛАРАЎ НЕ ЖАДАЕЦЕ? ФАЛЬШЫВЫХ...

Непрыемны сюрпрыз падчас «доларавай ліхаманкі», якая апошнім часам набірае абароты, можа атрымаць кожны з нас. Справа ў тым, што, улічыўшы некаторыя праблемы з набыццём валюты у рэспубліцы, на паверхню «вынырнуў» фальшывы стодоларавы «бакс».

Адрозніць ад сапраўднай стодоларавай купюры фальшыўку вельмі складана: папера і выраб яе амаль аналагічныя стопрацэнтнай стодоларавай банкноце. Аднак фальшыўка на тое і фальшыўка, што ў нечым пасуе перад дзяржаўным вырабам. Па-першае, новы «дуты» долар адрозніваецца ад сапраўднага ўжо тым, што ў ім парушана на банкноце размяшчэнне нумара. Па-другое, літары на подпісе зліваюцца: у сапраўдным яны падзелены. Між іншым, усе выяўленыя фальшыўкі датаваны 1990 годам. Такім чынам, пільнасць пры набыцці валюты, мяркуем, не пашкодзіць.

**Ігар ГРЫШЫН.**



## КАПРЫЗЫ «БАБІНАГА ЛЕТА»: ЗАГАРЭЛІСЯ ТАРФЯНІКІ

Сухое і адносна цёплае надвор'е, якое ўсталявалася з другой паловы мінулага тыдня, наклала адбітак на пажаранебяспечную сітуацыю ў краіне. Паводле звестак Галоўнага ўпраўлення пажарнай аховы, толькі за мінулыя выхадныя на Беларусі адбылося 79 пажараў і 18 аварый, звязаных з узгараннямі. У агні загінула два чалавека, знішчана каля 250 тон кармоў. Агульныя матэрыяльныя страты склалі 425 мільёнаў рублёў.

Асаблівую трывогу выклікае стан спраў на тарфяніках, якіх зараз па Беларусі гарыць ужо адзінаццаць. Найбольш буйныя пажары адзначаны ў Пінскім, Лідскім і Гродзенскім раёнах. Самі пажарнікі тлумачаць гэту сітуацыю проста: ««Людзі пайшлі па журавіны...»

**Сяргей ГРЫБ.**



## «МЫ ХОЧАМ БАЧЫЦЬ У МОЛАДЗІ ПАРТНЁРА Ў СПРАВЕ РЭФАРМІРАВАННЯ ДЗЯРЖАВЫ»

### Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі на Форуме моладзі Беларусі 20 верасня 1996 года

Дарагія сябры!

Я надаю вялікае значэнне сустрэчы з вамі, паколькі ад узаемаразумення паміж Кіраўніком дзяржавы і самай дынамічнай часткай грамадзян — моладдзю ў многім залежыць будучыня нашай краіны.

Практыка сусветнага развіцця сведчыць, што выжываюць і дасягаюць працвітання толькі тыя нацыі, дзе ўлада і моладзь знаходзяць агульную мову на прынцыповай аснове.

Шлях паддобрывання да моладдзі я не прымаю, паколькі ён бесперспектыўны.

Улічваючы гэта, дазвольце мне выкласці прынцыповыя падыходы Прэзідэнта да вырашэння асноўных праблем моладзі ў рэспубліцы.

Я не сумняваюся, што дзяржава павінна падтрымліваць моладзь.

Сёння гэта падтрымка павінна заключацца ў першую чаргу ў прадастаўленні кожнаму маладому чалавеку магчымасці працаваць, зарабляць сабе на жыццё.

Сітуацыя, што сёння складваецца, калі каля паловы сярод беспрацоўных — моладзь, нецярпімая. Асаблівую трывогу выклікае тое, што многія трапляюць у лік беспрацоўных прама пасля заканчэння навучальнай установы.

На ўзроўні Прэзідэнта вырашана, што кожнаму выпускніку прафесіянальнай навучальнай установы павінна быць гарантавана першае рабочае месца.

Далей усё залежыць ад самога маладога работніка: будзе працаваць добра, пакажа сябе патрэбным спецыялістам, работа для яго заўсёды знойдзецца. Ну а гультая ні адзін працоўны калектыў за свой кошт утрымліваць не будзе.

Кабінету Міністраў дадзена даручэнне падрыхтаваць змяненні ў заканадаўства Рэспублікі Беларусь па ўстанаўленню падатковых ільгот суб'ектам гаспадарання розных формаў уласнасці, якія прымаюць на работу выпускнікоў навучальных устаноў, а таксама ваеннаслужачых тэрміновай службы, звольненых з радоў Узброеных Сіл.

Думаю, што неабходна таксама распрацоўка механізма фінансавай падтрымкі прадпрыемстваў і арганізацый, якія прадастаўляюць рабочыя месцы так званай цяжкай моладзі.

Непазбежным спадарожнікам эканамічных рэформаў з'яўляецца структурная перабудова народнай гаспадаркі. Адбываецца яна і ў нас.

Аднак я лічу, што пры любых змяненнях выкідваць людзей на вуліцу нельга. Кіраўнік, перш чым праводзіць скарачэнне персаналу, павінен параіцца з калектывам, падумаць аб стварэнні новых рабочых месцаў для выслабаняемых работнікаў.

У той жа час і самі работнікі, у першую чаргу маладыя, павінны займаць больш актыўную пазіцыю на рынку працы.

Думаю, што і сёння ў нас у рэспубліцы дастаткова свабодных рабочых месцаў для прыкладання працы моладзі. Не хапае работнікаў у сельскай гаспадарцы, на многіх прадпрыемствах ёсць вакансіі па рабочых прафесіях.

Магчыма, для працаўладкавання камусьці прыйдзецца памяняць прафесію або вярнуцца ў родную вёску. Не трэба гэтага баяцца. Вы маладыя, поўныя сіл, ці варта чапляцца за ложак у гарадскім інтэрнаце?

Вы павінны быць гатовы браць адказнасць на сябе, а не толькі чакаць дапамогі ад дзяржавы.

Я ведаю, што сярод нашай моладзі шмат тых, хто хацеў бы займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Вы можаце быць упэўнены, што сумленнае прадпрымальніцтва, перш за ўсё ў сферы вытворчасці, карысталася і будзе карыстацца самай сур'ёзнай падтрымкай Прэзідэнта.

Нядаўна маім рашэннем створана Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый. Міністр, які ўзначальвае яго, да гэтага працаваў памочнікам Прэзідэнта, ведае мае погляды на развіццё прадпрымальніцтва і, думаю, у хуткім часе вы на справе адчуеце станоўчыя зрухі ў гэтай сферы.

Таксама ў бліжэйшай будучыні пры Дзяржаўным камітэце па справах моладзі будзе створаны Цэнтр садзейнічання менавіта маладзёжнаму прадпрымальніцтву. Спадзяюся, што такія цэнтры з'явяцца і ў рэгіёнах.

Асноўнай іх мэтай будзе адаптацыя моладзі да новых эканамічных умоў. А заснавальнікамі могуць стаць як дзяржаўныя і грамадскія арганізацыі, так і камерцыйныя структуры, якія клапоцяцца аб сваёй перспектыве.

У бліжэйшы час мы маем намер усур'ёз заняцца арганізацыяй грамадскіх работ для беспрацоўных. Нам патрэбны таксама інавацыйныя праграмы для беспрацоўнай моладзі. І ў сувязі з гэтым я папрасіў бы вас, паважаныя ўдзельнікі форуму, актыўна папрацаваць у секцыях і ўнесці канкрэтныя прапановы па распрацоўцы такіх праграм, а таксама альтэрнатыўных формаў занятасці.

Адным з асноўных прыярытэтаў дзяржаўнай палітыкі з'яўляецца падтрымка сістэмы адукацыі як асноўнага інстытута падрыхтоўкі моладзі да самастойнага жыцця.

Вы ведаеце, што пытанні развіцця адукацыі, захавання прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці ў гэтай сферы пастаянна знаходзяцца ў полі ўвагі Прэзідэнта.

Мы навялі парадак на ўступных экзаменах у ВНУ, перакрылі «чорныя хады» да вышэйшай адукацыі.

У мэтах падтрымкі навучэнцаў і студэнтаў, таленавітай моладзі ўказамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь створаны спецыяльныя фонды па сацыяльнай падтрымцы навучэнцаў і студэнтаў, а таксама па падтрымцы таленавітай моладзі.

Пачалася рэформа агульнаадукацыйнай школы. Яна заклікана, захаваўшы ўсё лепшае, уласцівае нашай школе, у той жа час ліквідаваць перагрузку вучняў, лепш падрыхтаваць іх да дарослага жыцця.

Мы пастаянна клапоцімся аб сацыяльнай абароне навучэнскай моладзі. Каб не быць галаслоўным, прывяду толькі некалькі прыкладаў.

Зусім нядаўна ўрадам адшукана магчымасць для фактычнага павелічэння памераў стыпендый студэнтаў і навучэнцаў.

Таксама было прынята рашэнне аб захаванні бясплатнага трохразовага харчавання іншагародніх навучэнцаў прафтэхвучылішчаў.

Адначасова былі выдзелены датацыі на змяншэнне кошту харчавання школьнікаў.

Як вы самі разумееце, усё гэта запатрабавала значных бюджэтных сродкаў. Але мы разумеем, што гэтыя сродкі ўкладваюцца ў нашу будучыню, і таму і ў далейшым не маем намеру мяняць сваю палітыку ў гэтай сферы.

Нам удалося зрушыць з мёртвага пункту работу па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі.

Многія з вас памятаюць маладзёжныя жылыя комплексы, якія ў 80-я гады былі эфектыўным спосабам будаўніцтва жылля для моладзі.

З пачатку 1992 года будаўнічыя работы на пераважнай большасці МЖК былі замарожаны. Сотні маладых сем'яў апынуліся ля разбітага карыта.

Таму з рэзервовага фонду Прэзідэнта ў 1996 годзе выдзелена 30 мільярдаў рублёў на завяршэнне будаўніцтва недабудаваных маладзёжных жылых комплексаў.

Далейшую перспектыву мы бачым у развіцці жыллёвага крэдытавання моладзі.

Згодна з Указам Прэзідэнта, кожны малады грамадзянін рэспублікі ва ўзросце да 25 гадоў будзе мець магчымасць узяць крэдыт тэрмінам на 40 гадоў для будаўніцтва або куплі жылых памяшканняў з выплатай 2 працэнтаў гадавых за карыстанне ім. Для гэтага адкрываецца крэдытная лінія на 800 мільярдаў рублёў.

Акрамя гэтага Дзяржаўнаму камітэту па справах моладзі сумесна з аблвыканкамамі і Міністэрствам фінансаў даручана стварыць фонд маладзёжнага жыллёвага будаўніцтва, дзе маладыя грамадзяне змогуць атрымаць ільготны крэдыт на будаўніцтва або куплю жылых памяшканняў.

Гэта нармальная сусветная практыка, прымяненне якой дасць магчымасць паскоранымі тэмпамі вырашыць праблему жылля для маладых.

Гэта, дарэчы, і добры сродак для стымулявання нашай эканомікі.

Дарагія сябры!

На жаль вымушаны канстатаваць, што ў атмасферы крушэння аўтарытэтаў, разборак і ўзаемных прэтэнзій палітыкаў многія прадстаўнікі маладога пакалення страцілі маральныя і палітычныя арыенціры.

У рэспубліцы з'явілася нямала палітычных экстрэмістаў, якія імкнуцца выкарыстаць залішнюю даверлівасць часткі моладзі для дасягнення ўласных амбіцыйных мэтаў.

У той жа час у нас сёння няма якой-небудзь стройнай сістэмы маральнага, грамадзянска-патрыятычнага выхавання дзяцей, падлеткаў і моладзі.

У запале барацьбы з нядаўнім мінулым у грамадстве перасталі гаварыць аб выхаванні зусім. А таксама, да нядаўняга часу, і нешта рабіць.

Сітуацыю трэба выпраўляць. Мы павінны поўнасцю выкарыстаць выхаваўчы патэнцыял сям'і, школы, грамадскіх арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі.

Цяпер прымаюцца сур'езныя комплексныя меры для якаснага паляпшэння выхаваўчай работы ў навучальных установах рознага ўзроўню. У тым ліку мною даручана Міністэрству адукацыі ў кожнай ВНУ і тэхнікуме стварыць аддзел або камітэт па рабоце з моладдзю.

Мяне сур'ёзна хвалюе зніжэнне выхаваўчага патэнцыялу нашых сем'яў. Злоўжыванне спіртным, сканцэнтраванне ўсіх сіл у пагоні за матэрыяльным дастаткам, нізкая педагагічная культура многіх бацькоў, рост колькасці няпоўных сем'яў — такі асноўны клубок праблем сям'і, аб якіх мы ведаем і якія маем намер з вашай дапамогай паступова вырашаць.

У сучаснай сітуацыі асаблівую ролю ў выхаванні моладзі могуць і павінны адыгрываць сродкі масавай інфармацыі.

На жаль, яны часта выбіраюць самы лёгкі шлях выжывання — за кошт «скормлівання» насельніцтву нізкапробнай прадукцыі.

Як вынік — рост агрэсіўнасці ў моладзі, страта такіх каштоўнасцей, як грамадзянскі абавязак, законапаслухмянства, спачуванне, нацыянальная гордасць.

Сённяшняе тэлебачанне не мае дакладнай накіраванасці на далучэнне маладых людзей да працы, прапаганду ідэалу працоўнай дзейнасці, выхаванне пачуцця патрыятызму, любові да Радзімы.

Мы павінны змагацца за маладое пакаленне, у тым ліку і на інфармацыйным рынку.

Сродкі масавай інфармацыі, і перш за ўсё тэлебачанне, павінны працаваць на рост інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі, захаванне сацыяльнага міру, павагі да дзяржаўных інстытутаў улады, на выхаванне пачуцця гордасці за сваю Радзіму.

Думаю, што без вырашэння гэтай праблемы мы ніякай новай Беларусі не пабудуем.

Тут велізарнае поле дзейнасці для маладых журналістаў, музыкантаў, прадстаўнікоў іншых творчых прафесій.

Дзяржава са свайго боку будзе ўсямерна падтрымліваць тых дзеячаў беларускай культуры, якія не на словах, а на справе сваёй творчасцю ўсталёўваюць традыцыйныя для беларускага народа гуманістычныя каштоўнасці.

Гэтымі днямі я даў шэраг канкрэтных даручэнняў па развіццю маладзёжнага эстраднага мастацтва ў рэспубліцы. Ужо ў бягучым годзе ў канцы кастрычніка ў Мінску будзе створаны Маладзёжны тэатр эстрады з адпаведным фінансавым і матэрыяльным забеспячэннем.

Прадугледжаны таксама цэлы комплекс іншых мераў па развіццю і прапагандзе беларускага эстраднага мастацтва. Іх рэалізацыя дасць магчымасць карэнным чынам змяніць сітуацыю ў гэтай сферы.

Для Беларусі, як і для многіх іншых дзяржаў, якія перажываюць крызісныя з'явы ва ўсіх сферах жыцця грамадства, у вышэйшай ступені актуальнымі з'яўляюцца пытанні прававога выхавання моладзі.

Асноўнымі напрамкамі прафілактыкі правапарушэнняў лічу стварэнне ўмоў для ўключэння моладзі ў грамадска-карысную дзейнасць, а таксама фарміраванне эфектыўнай сістэмы сацыяльнай рэабілітацыі маладых правапарушальнікаў.

Нам трэба адрадзіць шырокі ўдзел грамадскасці ў гэтай дзейнасці. Ужо сёння падтрымку Міністэрства ўнутраных спраў атрымаў грамадскі рух «Моладзь супраць злачыннасці», аднавілі работу аператыўныя маладзёжныя атрады дружыннікаў.

Паважаныя таварышы!

Асаблівасць нашай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі заключаецца ў актыўным удзеле самой моладзі ў вырашэнні ўласных праблем.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

# «МЫ ХОЧАМ БАЧЫЦЬ У МОЛАДЗІ ПАРТНЁРА Ў СПРАВЕ РЭФАРМІРАВАННЯ ДЗЯРЖАВЫ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Найбольш эфектыўна і аддавочна гэта праяўляецца ў дзейнасці дзіцячых і маладзёжных грамадскіх арганізацый.

Мы зацікаўлены ў тым, каб яны былі паўнацэннымі партнёрамі цэнтральных і мясцовых уладаў у рэалізацыі сацыяльных праграм, якія датычаць самага шырокага спектра праблем: летні адпачынак, работа па месцы жыхарства, занятасць, сацыяльныя паслугі, масавы спорт, работа з таленавітай моладдзю і інвалідамі і г.д.

Мы таксама зацікаўлены ў тым, каб дзіцячыя і маладзёжныя аб'яднанні як мага больш эфектыўна і поўна рэалізоўвалі свае выхаваўчыя функцыі.

Сёння ў краіне дзейнічаюць 60 маладзёжных і дзіцячых грамадскіх арганізацый, фондаў рэспубліканскага ўзроўню і дзесяткі такіх жа аб'яднанняў у розных рэгіёнах.

Я хацеў бы сказаць добрыя словы аб Лізе добраахвотнай працы моладзі, якую ўзначальвае Міхаіл Мятлікаў, Беларускім саюзе моладзі (Сяргей Даронін), Рэспубліканскай асацыяцыі міжнародных маладзёжных абменаў і турызму (Міхаіл Арда), Фондзе сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў «Мы — дзецям» (Уладзімір Грыдзюшка) і іншых. Яны робяць вельмі карысную і патрэбную справу.

Хіба дрэнна, што ў гэтым годзе 5 тысяч студэнтаў і навучэнцаў змаглі летам у саставе студэнцкіх атрадаў папрацаваць на Стаўраполлі і Украіне, харчавацца ўволю экалагічна чыстымі садавінай і агароднінай, зарабіць невялікую колькасць грошай, якія далёка не лішнія кожнаму?

А хіба не задаволены нашы дзеці, што тысячы іх кожны год аздараўліваюцца на Нарачы ў лагеры «Зубраня» і за мяжой?

Вельмі добра, што гэтым летам прайшлі міжнародныя маладзёжныя фестывалі «Дружба славян-96» і «Бе-Ла-Русь», дзе сотні маладых людзей з Беларусі, Расіі, Украіны, Латвіі гутарылі адзін з адным, дыскутавалі, арганізоўвалі конкурсы, канцэрты.

У нас у рэспубліцы ёсць Асацыяцыя пошуку і ўвекавечання памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў «Пошук», якую ўзначальвае Ларыса Навумаўна Бруева. На рахунку гэтай арганізацыі шмат добрых спраў.

У бягучым годзе па яе ініцыятыве на мяжы Смаленскай і Віцебскай абласцей з удзелам пошукавых фарміраванняў Расіі і Беларусі была праведзена Міжнародная вахта памяці.

Мы падтрымліваем арганізацыі, якія займаюцца патрыятычным выхаваннем равеснікаў. У прыватнасці, Міністэрства абароны выдзеліла асацыяцыі «Пошук» аўтамабіль.

Асноўнымі арганізатарамі ўсіх пералічаных спраў выступалі маладзёжныя арганізацыі. Дзяржава ў асобе Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі аказвала фінансавую і арганізацыйную падтрымку гэтым мерапрыемствам.

Такія разумныя і канструктыўныя ініцыятывы мы маем намер падтрымліваць і ў далейшым.

У той жа час, знаёмячыся з пералікам маладзёжных грамадскіх арганізацый, я, на жаль, не ўбачыў у ім арганізацый рабочай моладзі, слаба прадстаўлены аб'яднанні вясковых юнакоў і дзяўчат, невялікі спектр студэнцкіх арганізацый.

Больш актыўна павінны працаваць маладзёжныя арганізацыі і ў арміі.

Я не заклікаю ствараць маладзёжныя арганізацыі зверху. Неабходна знайсці маладых людзей — будучых лідэраў і аказаць ім падтрымку ў пошуку аднадумцаў.

Нас не палохае колькасць маладзёжных аб'яднанняў. Няхай яны дапамагаюць маладому чалавеку рэалізаваць сябе ў жыцці, ствараюць для гэтага арганізацыйныя і іншыя ўмовы.

У той жа час я лічу, што ў гэтых арганізацый павінен быць адзін каардынуючы грамадскі орган, які б выказваў іх інтарэсы і змог бы іх аўтарытэтна адстойваць перад дзяржаўнымі структурамі.

Гэта можа быць, напрыклад, Нацыянальны савет маладзёжных арганізацый. Магчыма і іншая назва, якая адлюстроўвала б сутнасць гэтага каардынуючага органа.

Я ведаю, што прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэта маладзёжных і дзіцячых арганізацый ужо збіраліся ў Дзяржаўным камітэце па справах моладзі, пачалі выпрацоўваць Статут такога Савета.

Трэба паскорыць яго выпрацоўку. Час ідзе, а разам з ім адыходзяць і нерэалізаваныя магчымасці.

Я сёння хацеў бы напрамую звярнуцца да лідэраў маладзёжных арганізацый:

Дарагія сябры!

Кожная ваша арганізацыя спецыфічная, розныя людзі выбралі вас сваімі лідэрамі. Але асноўнае, аб чым вы павінны памятаць увесь час, — маладыя юнакі і дзяўчаты, якія даверылі вам узначаліць арганізацыі, спадзяюцца, што разам з вамі і дзякуючы вам іх жыццё стане лепшым, багацейшым і матэрыяльна і духоўна.

Дзеля гэтага вы павінны аб'яднацца, адкінуўшы асабістыя амбіцыі і прыхільнасці.

Дзякуючы такому працэсу мы з вамі зможам на якасна новым узроўні вырашаць маладзёжныя праблемы. Думаю, і для палітычных лідэраў гэта будзе добрым прыкладам таго, як можна і трэба падыходзіць да вырашэння жыццёва важных праблем грамадства.

Аб'яднаўшыся, вы будзеце больш паважна выглядаць і на міжнародным узроўні.

Я адназначна выступаю за расшырэнне міжнародных кантактаў нашай моладзі. Чым больш грамадскіх арганізацый — жаночых, ветэранскіх, маладзёжных і іншых будуць супрацоўнічаць па сваіх напрамках работы з аналагічнымі арганізацыямі іншых краін, тым больш добрага замежная моладзь будзе даведвацца аб нашай краіне.

Удзельнікі міжнародных маладзёжных абменаў — гэта ў першую чаргу нефармальныя паслы нашай дзяржавы, людзі, якія нясуць інфармацыю аб нашай краіне ва ўсе куткі свету.

Мы падпісалі міжурадавае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне маладзёжнай палітыкі з Францыяй, на ўзроўні дзяржаўных структур па рабоце з моладдзю — з Расіяй, Казахстанам, Украінай, Малдовай, Германіяй, рыхтуюцца такія дагаворы з Польшчай, Італіяй, Балгарыяй.

Паважаныя таварышы!

Паспяховае вырашэнне маладзёжных праблем у многім залежыць ад стабільнасці грамадства.

Выканаўчая ўлада ведае шляхі фарміравання ў рэспубліцы нармальнай рыначнай эканомікі, пераўтварэння нашай Беларусі ў дзяржаву сапраўднага народаўладдзя.

Нядаўна была праведзена нарада, на якой разглядаліся асноўныя палажэнні Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996—2000 гады. Яна прызначана забяспечыць рэальнае павышэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва шляхам пераходу да шматукладнай рыначнай эканомікі, у якой усе формы, адпаведна, будуць роўныя і тым самым створаны ўмовы для аздараўлення буйных прадпрыемстваў і развіцця сярэдняга і малога бізнесу.

Але, каб увасобіць гэту Праграму ў жыццё, неабходна, дарагія сябры, ваша і ўсяго народа адабрэнне і падтрымка.

Сёння пад уздзеяннем дэструктыўных сіл у рэспубліцы паглыбляецца крызіс узаемаадносінаў заканадаўчай і выканаўчай галін улады. У наяўнасці кансалідацыя апазіцыі ў парламенце і паза ім у адзіны антыпрэзідэнцкі блок.

Частка дэпутатаў Вярхоўнага Савета на чале з кіраўніцтвам замест заканатворчасці заняты пошукам шляхоў адхілення Кіраўніка дзяржавы ад кіравання краінай.

Асабліва жорсткае супраціўленне з боку кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда сустракае спроба Прэзідэнта стварыць з дапамогай указаў прававую базу эканамічных і сацыяльных рэформаў. І, як заўсёды, са спасылкамі на дзеючую Канстытуцыю.

Цяпер Вярхоўны Савет спрабуе стаць дамінуючай галіной улады і ў тандэме з Канстытуцыйным судом здольны паралізаваць сістэму дзяржаўнага кіравання.

Вярхоўнаму Савету па сутнасці належыць непадзельнае права вызначаць сваю ўласную кампетэнцыю, не ўзгадняючы яе з паўнамоцтвамі іншых дзяржаўных органаў, прымаць рашэнні па рэалізацыі законаў.

У гэтай сітуацыі, будучы адказным за захаванне сацыяльнай стабільнасці і парадку ў рэспубліцы, за лёс праводзімых рэформаў, Прэзідэнт вымушаны звярнуцца да народа з просьбай аб пераглядзе паўнамоцтваў асноўных галін улады.

Я не збіраюся падрабязна гаварыць аб праекце ўнесеных змяненняў у дзеючую Канстытуцыю. Мяркую, вы з імі азнаёміліся.

Адзначу толькі яшчэ раз, што размова ідзе аб імкненні Прэзідэнта зняць прававыя перашкоды на шляху сацыяльна-эканамічнага развіцця нашага грамадства.

Не верце, што ў рэспубліцы будзе ўстаноўлена дыктатура Прэзідэнта, а роля парламента ў грамадстве будзе зведзена да нуля.

Прапануемыя змяненні і дапаўненні ў Асноўны закон краіны прымусяць усіх сканцэнтравацца на прыняцці такой неабходнай грамадству заканадаўчай базы эканамічных і сацыяльных рэформаў.

Не верце, што прыняцце новай рэдакцыі Канстытуцыі прывядзе да самаізаляцыі рэспублікі ад сусветнага супольніцтва.

Вяртання да старога няма. Я абяцаю вам, што рэспубліка застанецца адкрытай для любых міжнародных кантактаў, а вы будзеце свабодна ездзіць па ўсім свеце.

Прамаруджванне ў вырашэнні канстытуцыйнага крызісу можа толькі ўскладніць стваральную работу выканаўчай улады, прывесці да неапраўданых канфліктаў і парушыць грамадзянскую згоду ў грамадстве.

Зусім зразумела, што велізарнай адказнасці, якая ляжыць на Прэзідэнце за стан спраў у краіне, павінны адпавядаць канстытуцыйныя паўнамоцтвы, якія даюць магчымасць праводзіць палітыку ў інтарэсах народа.

Прыняўшы Канстытуцыю ўсенародна, мы канстытуцыйна забяспечым стабільнасць грамадства.

Спыняцца ўсялякія размовы на тэму: добрая або нядобрая Канстытуцыя. Таму што воля народа — вышэйшы закон і для Вярхоўнага Савета, і для Прэзідэнта, і для Канстытуцыйнага суда, і для ўрада.

Мадэль дзяржаўнасці, якую прапануюць папраўкі да Канстытуцыі, прапрацавана з улікам міжнароднага вопыту.

Яна ўводзіць нас у кола дзяржаў, якія прынята называць дэмакратычнымі, дзе кожны чалавек мае права і магчымасць удзельнічаць у выбранні кіраўніка дзяржавы, заканадаўцаў, праз рэферэндум уключацца ў вырашэнне асноўных пытанняў грамадскага і палітычнага жыцця.

Што тут дыктатарскага? Толькі прадузятасць ці злосны намер могуць бачыць у новай рэдакцыі Канстытуцыі дыктатарскія тэндэнцыі.

Перакананы, што моладзь не пойдзе за правакатарамі, якія заклікаюць да сабатажу рэферэндуму, і прыме самы актыўны ўдзел у рэфарміраванні нашай дзяржаўнасці, якое здымае перашкоды на шляху дэмакратычнага развіцця нашага грамадства.

Дарагія сябры!

Ідэя паўнацэннай дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі ў Беларусі мацнее і паспяхова ўвасабляецца ў жыццё пры падтрымцы ў тым ліку выканаўчай улады.

Прысутнасць на форуме членаў урада гаворыць аб тым, што мы хочам не толькі пачуць вашу думку па розных пытаннях маладзёжнай палітыкі, але і перавесці яе ў галіну практычных дзеянняў.

Міністры атрымалі ад мяне заданне прыняць удзел у рабоце вашых секцый, азнаёміць вас з тымі напрамкамі работы, якімі яны займаюцца, а таксама адказаць на любое ваша пытанне.

Мы разглядаем ваш форум як адну з эфектыўных формаў выпрацоўкі дзяржаўных рашэнняў, як неабходную ўмову паспяховага правядзення маладзёжнай палітыкі.

Я спадзяюся, што форум выпрацуе канкрэтныя прапановы для кіраўніцтва краіны, мясцовых органаў улады, маладзёжных арганізацый.

Для гэтага ў вас ёсць усё неабходнае: воля, веды, уменне.

Я спадзяюся на вашу падтрымку рэформаў, што праводзяцца Прэзідэнтам, хачу, каб вы сталі іх непасрэднымі ўдзельнікамі.

Са свайго боку я заўсёды гатоў да адкрытай размовы і абяцаю падтрымку ўсім вашым канструктыўным пачынанням.

Жадаю форуму паспяховай работы, удзельнікам — маладосці і шчасця.

## ЗАКЛЮЧНАЕ СЛОВА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А.Р.ЛУКАШЭНКІ НА ФОРУМЕ МОЛАДЗІ БЕЛАРУСІ 21 верасня 1996 года

Дарагія сябры!

Я задаволены ходам форуму. Мне спадабалася ваша шчырая, часам вельмі вострая размова аб маладзёжных праблемах. Менавіта да такой размовы я вас і заклікаў у сваім уступным слове. Думаю, з гэтага боку форум вырашыў свае задачы.

Аднак вы прыехалі на форум з усіх канцоў рэспублікі не толькі для таго, каб пагаварыць аб сваіх праблемах, сустрэцца з Прэзідэнтам і членамі ўрада, але і пастарацца вырашыць некаторыя з іх, прыцягнуць увагу органаў улады да гэтых пытанняў.

Форум можна будзе лічыць паспяховым толькі ў тым выпадку, калі ён надасць новы імпульс маладзёжнаму руху ў рэспубліцы.

Павінен з задавальненнем адзначыць, што большасць выступленняў і на пленарных пасяджэннях, і, як мяне інфармавалі, на секцыях мелі канструктыўны характар, былі накіраваны на пошук шляхоў вырашэння найбольш наспелых праблем. І гэта яшчэ адна станоўчая рыса вашага форуму.

У ходзе работы форуму мне было зададзена каля 400 пытанняў у пісьмовай форме. На значную частку я пастараўся адказаць як мага больш сумленна і шчыра.

На многія вашы пытанні вы атрымалі адказы і ад членаў урада, кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў, якія прымалі ўдзел у рабоце секцый.

Асобныя канкрэтныя пытанні будуць перададзены выканаўчым органам для прыняцця мераў і канкрэтных рашэнняў. У цэлым прагучала каля 600 выступленняў па самых розных пытаннях грамадска-палітычнага жыцця нашага грамадства і дзяржавы, якія хвалююць моладзь, яе арганізацыі.

Практычна ўсе пытанні маюць грамадска значны характар.

Гэта актыўнасць гаворыць перш за ўсё аб тым, што вы, як бы таго ні хацелася камусьці, не настроены на канфрантацыю з кіраўніком дзяржавы, не выступаеце супраць праводзімай ім палітыкі.

Моладзь непакоіць захаванне сацыяльнага і грамадзянскага міру ў нашай рэспубліцы. Ніхто не зацікаўлены ў нагнятанні канфрантацыі.

З вашых пытанняў і выступленняў гранічна ясна, што ўсе хацелі б актыўна працаваць, працаваць на карысць дзяржавы, грамадства, сябе і сваёй сям'і. Дзяржава павінна ўсяляк дапамагчы ў гэтым: стварыць усе неабходныя ўмовы для ажыццяўлення вашых мэтаў, даць магчымасць атрымаць адукацыю, работу, прывесці заканадаўства ў адпаведнасць з патрэбамі маладых членаў грамадства.

Хоць трэба сказаць, што і ў выступленнях, і ў асобных рэзалюцыях праглядваюцца ўтрыманскія ноткі, а то і неразуменне сутнасці падзей, якія адбываюцца.

Выклікае здзіўленне, што прадстаўнік камсамола, а дакладней другі сакратар ЦК ЛКСМ Павел Мандрыка выступіў у абарону звышдаходаў работнікаў банкаў фактычна супраць майго імкнення навесці парадак на валютнай біржы. Апошнім часам мяне здзіўляе пазіцыя кіраўніцтва кампартыі і іх маладых таварышаў. Асабліва мне незразумела, што яны выступаюць супраць даты рэферэндуму 7 лістапада, мной назначанай.

Паважаныя сябры!

Дазвольце і мне ўнесці свой канструктыўны ўклад у работу вашага форуму, коратка і па сутнасці адказаць на некаторыя пытанні, што ўздымаліся ў час пленарных і секцыйных пасяджэнняў.

Я ўжо гаварыў у сваім асноўным выступленні і гатоў пацвердзіць гэта яшчэ раз, што дзяржава гатова ўсімі сіламі садзейнічаць працоўнай занятасці моладзі.

Гэта кепска, калі моладзь не можа знайсці прымяненне сваім сілам і атрыманым ведам. Адсюль прамая дарога да самых розных адхіленняў у паводзінах моладзі.

Мы гэта разумеем і будзем і далей лічыць занятасць моладзі самай прыярытэтнай задачай дзяржавы.

Будзем мы вітаць і падтрымліваць любыя практычныя пачынанні з вашага боку, накіраваныя на павышэнне занятасці моладзі.

Але ўсё гэта будзе адбывацца ў рамках нашых сённяшніх магчымасцей. Таму прашу вас улічыць, што любыя ініцыятывы, якія патрабуюць дзяржаўных субсідый і льгот, будуць разглядацца вельмі ўважліва.

Тыя, што пойдуць на карысць рэспублікі і самой моладзі, мы падтрымаем.

Ну, а калі пазіцыя маладзёжных аб'яднанняў будзе зводзіцца толькі да таго, каб патрабаваць ільгот ад урада, такія праекты мы падтрымаць не зможам.

Вы ўжо не крыўдуйце, нас проста не зразумеюць іншыя групы насельніцтва. Пазіцыя Прэзідэнта тут такая: падтрымка вам будзе аказвацца, але ў разумных межах, абумоўленых нашай цяперашняй эканамічнай сітуацыяй. Таму асноўны ўпор вам варта зрабіць усё ж на ўласныя сілы, на ўласную ініцыятыву. А патэнцыял у нашай моладзі велізарны, у гэтым я ні хвіліны не сумняваюся.

Што датычыць удзелу існуючага Камітэта па справах моладзі і грамадскіх маладзёжных аб'яднанняў у арганізацыі першаснай і другаснай занятасці моладзі, у мяне пярэчанняў няма. Галоўнае, каб ад камісій, якія ствараюцца, была карысць для самой моладзі. Давайце свае прапановы, і, думаю, што рашэнне будзе станоўчым.

Па цэнтрах занятасці моладзі трэба яшчэ параіцца, ці патрэбны яны. Можа, можна абысціся існуючай службай занятасці, а не ствараць новую спецыяльна для моладзі?

II. Я прасіў бы вас больш актыўна падключацца да рэалізацыі рэформы, якая цяпер ажыццяўляецца ў сістэме адукацыі. Гэта ж не толькі справа чыноўнікаў ад адукацыі, але і тых, хто працуе ў гэтай сферы, ды і ўсіх нас, таму што з адукацыяй і выхаваннем мы ўсе звязаны ад нараджэння і да апошніх дзён.

Таму і хацелася б, каб рэформа адукацыі не ўспрымалася вамі толькі як чарговае мерапрыемства, спушчанае зверху. Яна ж павінна прывесці да перабудовы не толькі ўмоў навучання, але і яго зместу.

Поле работы вялікае, і вельмі хацелася б, каб маладыя педагогі і арганізатары адукацыі, навучэнцы і студэнты ўзялі на сябе частку адказнасці за рэалізацыю рэформы.

Таму што без вашага зацікаўленага ўдзелу яе вынікі будуць далёка не тымі, на якія мы разлічваем.

Міністэрства адукацыі і навукі, іншыя органы кіравання адукацыяй будуць рабіць сваю справу, за гэта мы з іх спагонім. Але вы ж таксама не можаце застацца ўбаку, вы таксама павінны прыняць актыўны ўдзел у гэтай справе.

III. Што датычыць праблемы жылля, то я не пярэчу, каб Камітэт па справах моладзі і адпаведныя дзяржаўныя структуры на месцах прынялі актыўны ўдзел у рэалізацыі ўказа Прэзідэнта па льготах моладзі ў жыллёвым будаўніцтве. Трэба гэта выкласці на паперы і пачынаць дзейнічаць.

Аднак трэба думаць і над тым, каб гэту праблему вырашалі і самі маладыя людзі, будавалі жыллё за кошт сваёй працы, сваіх сумленна зробленых зберажэнняў.

А наша дапамога павінна заключацца ў тым, каб стварыць умовы для атрымання крэдыту, і крэдыту зваротнага.

IV. Я рады, што вы ў сваіх выступленнях і прапановах не абышлі пытанне аб рабоце з дзецьмі і моладдзю па месцы жыхарства. Наводзіць парадак у гэтай справе трэба, і неадкладна. Гэта сістэма ў нашай дзяржаве павінна працаваць. Іншая справа, што вырашыць пытанне з паўнацэнным фінансаваннем яе за кошт дзяржаўнага бюджэту цяпер наўрад ці магчыма. Значыць, трэба шукаць і іншыя крыніцы фінансавання, у нечым можна даверыцца і ініцыятыве самой моладзі.

V. Што датычыць стварэння інстытута моладзі пры вашым маладзёжным Камітэце.

Я лічу, што такі інстытут неабходны (у Маскве і Кіеве яны актыўна працуюць пад кіраўніцтвам дзяржаўных структур па справах моладзі). Трэба паглядзець з ліку існуючых інстытутаў, які можна было б узяць як базавы і перафарміраваць яго ў інстытут даследавання маладзёжных праблем, захаваўшы пры гэтым, вядома, яго базу і навуковыя кадры. Лічыце гэта даручэннем Міністэрству адукацыі і навукі.

VI. Я падзяляю вашу заклапочанасць станам работы па папярэджанню правапарушэнняў у маладзёжным асяроддзі. Сітуацыя сапраўды складаная і патрабуе аб'яднання намаганняў дзяржаўных службаў і грамадскіх арганізацый на барацьбу з гэтай негатыўнай з'явай.

Дзяржава са свайго боку і ў далейшым будзе ўдзяляць гэтаму пытанню пільную ўвагу. Але і ад вас я чакаю большага ўдзелу ў вырашэнні гэтай праблемы. Наш ранейшы вопыт паказвае, што без удзелу грамадскасці, асабліва маладзёжнай, вырашыць гэту праблему немагчыма.

VII. Праблема злачыннасці — гэта перш за ўсё праблема духоўнасці моладзі, яе культурнасці і маралі.

За час работы форуму мы ўбачылі і пачулі гатоўнасць маладых людзей займацца самаразвіццём, што душа нашага беларускага народа працягвае жыць у вас — дастойных яго прадстаўніках. Што нашы галоўныя маральныя і духоўныя каштоўнасці вамі не забыты.

Нам, аднак, хацелася б бачыць значна большы ўклад у выхаванне гэтых якасцей прафесарска-выкладчыцкага саставу, настаўнікаў і, вядома, бацькоў.

Дарагія сябры!

Можна было б яшчэ шмат гаварыць аб праблемах, узнятых вамі, і шляхах іх вырашэння. Думаю, што ўстаноўленыя сёння кантакты з членамі Кабінета Міністраў дапамогуць вам іх рэгулярна і аператыўна вырашаць.

У адным вы можаце быць упэўнены: і ўрад, і Прэзідэнт адкрытыя для шчырага, канструктыўнага дыялогу з моладдзю. Любая ваша разумная прапанова, накіраваная на карысць грамадства, будзе разгледжана максімальна добразычліва.

Выканаўчая ўлада не мае намеру ні падстройвацца пад моладзь, ні ігнараваць яе законныя інтарэсы. Мы хочам бачыць і ў маладзёжных арганізацыях, і ў моладзі ў цэлым шчырых роўных партнёраў у агульнай справе рэфарміравання дзяржавы, пабудове справядлівага і працвітаючага грамадства.

Мы знаходзімся толькі ў пачатку гэтага шляху. Зроблена нямала, але гэта толькі першыя крокі да таго, каб працэс пераўтварэнняў стаў незваротным.

Думайце, з кім вам па дарозе, рабіце свой выбар. Але калі ўжо вырашыце быць разам з Прэзідэнтам, то просьба не адступаць, не хавацца ў кусты.

Сённяшні форум паказаў, што ў нас з вамі шмат агульнага, і перш за ўсё — гэта агульная вялікая работа па вырашэнню праблем моладзі і адказнасць за будучыню роднай Беларусі.

*(Публікуецца ў пераказе).*



# АДКРЫТАЕ АКЦЫЯНЕРНАЕ ТАВАРЫСТВА «СВЕТЛАГОРСКІ ЦЭЛЮЛОЗНА-КАРДОН

## СУЧАСНАЯ ВЫТВОРЧАСЦЬ, ПЕРАДАВЫЯ ЕЎРАПЕЙСКАЯ ЯКАСЦЬ ПРАДУК

**Аляксандр ЧЫЖ, генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства «Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат»:**

## «ЗА НАШЫМІ ПОСПЕХАМІ СТАЯЦЬ ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ЗА ЎЗНАГАРОДАМІ Ў ЧАРГУ НЕ СТАНОВЯЦЦА І ЗОРАК З НЕБА НЕ ХАПАЮЦЬ»

***На прамысловай карце рэспублікі зараз надзвычай цяжка знайсці прадпрыемства, якое не закранулі сённяшнія сумныя рэаліі. На варотах многіх айчынных гігантаў можна прачытаць, што завод ці фабрыка нармальна не працуе ці функцыянуе ў аслабленым рэжыме. Прычыны, думаю, пералічваць не варта. Іх вельмі шмат. Ды і ад іх пераліку наўрад ці што зменіцца да лепшага.***

***Праўда, у гэтым моры праблем, на шчасце, знаходзяцца прадпрыемствы, якія мужна змагаюцца за ўласнае выжыванне, забяспечваючы пры гэтым тысячы людзей рабочымі месцамі і рэгулярна выплачваючы зарплату. Сярод такіх выключэнняў — Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат. Гісторыя гэтага прадпрыемства, а з нядаўняга часу — адкрытага акцыянернага таварыства — налічвае амаль тры дзесяткі гадоў. Але фактар уласнай маладосці ніколі не з'яўляўся для светлагорцаў прычынай, каб спісваць свае грахі на час. Нядзіўна, што і цяпер у цэхах ААТ штодзень чутны людскія галасы, напоўненыя аптымізмам і верай у заўтрашні дзень.***

***Пра тое, як Светлагорскаму ЦКК удаецца вытрымліваць эканоміка-палітычныя катаклізмы, што зараз на канвееры камбіната і пра многае іншае — наша размова з яго генеральным дырэктарам Аляксандрам ЧЫЖОМ.***

**— Аляксандр Ільіч, прабачце за адступленне, але Светлагорск у жыхароў Беларусі сёння часцей асацыіруецца з колькасцю наркаманаў, ВІЧ-інфіцыраваных, але ніяк ні з працоўнымі поспехамі вашага прадпрыемства.**

— Мы не збіраемся нікога прымушаць захапляцца нашымі дасягненнямі ў вытворчасці цэлюлозы і кардону. Гэта па-першае. А па-другое, наркаманія, СНІД і іншыя адметнасці эпохі беспрацоўя і страты ўсялякіх нармальных устояў прысутнічаюць у многіх гарадах і пасёлках рэспублікі. Проста, на мой погляд, там не спяшаюцца біць трывогу, спадзеючыся, відаць, на несур'ёзнасць праблемы. А дарэмна. Бяда ж ходзіць побач з кожным. Важна яе своечасова спыніць.

**— Мяркуючы па вашаму заключэнню, вы вельмі добра валодаеце ўзнятай праблемай?**

— Дзіўна было б, каб я стаяў у баку ад яе. Як ніяк, я з'яўляюся членам гарадскога камітэта і ўдзельнічаю ў абмеркаванні гэтай праблемы.

**— Выпадкова, гэта не грамадская нагрузка з боку мясцовай улады?**

— Ведаеце, у мае амаль 70 гадоў няма сэнсу абцяжарваць сябе лішнімі клопатамі. Але гэта клопат агульны. На жаль, і на нашым прыдпрыемстве ёсць работнікі, занесеныя ў «чорны спіс» медыкаў. Прыходзіцца прыкладваць шмат намаганняў, каб неяк паўплываць на распаўсюджанне гэтай бяды.

**— Аляксандр Ільіч, безумоўна, вы — не доктар, каб займацца лячэннем і выхаваннем хворых, а прамысловец, за плячыма якога велізарны вопыт, цэлае жыццё.**

— Думаю, што чалавек павінен увасабляць у сабе розныя якасці. Як кажуць, павінен умець многае, але не ўсё рабіць.

**— Інакш кажучы, з'яўляцца спецыялістам ў нейкай адной галіне дзейнасці.**

— Так. Трэба ведаць пакрысе аб многім і як мага больш — аб нямногім.

**— Значыць, давайце пяройдзем да вытворчай тэматыкі і паспрабуем высветліць, што сабой уяўляе Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат, які сёння ўпэўнена трымаецца на плаву, выпускаючы высакаякасную ўпакоўку для самай рознай прадукцыі.**

— На жаль, «плаваць» з кожным годам становіцца ўсё цяжэй.

А наогул, 30 гадоў таму на месцы сённяшняга камбіната была пустэча. Я быў першым будаўніком прадпрыемства, прыбыўшы сюды ў якасці галоўнага інжынера і выконваючага абавязкі дырэктара.

Адразу ўдалося сабраць калектыў аднадумцаў, людзей, здольных горы звярнуць. Дарэчы, літаральна праз два гады, дакладна памятаю — 30 чэрвеня 1968 года, мы ўвялі першыя магутнасці ў строй. І потым практычна штогод уводзілі новыя цэхі, расшыраліся, забяспечваючы сваіх спажыўцоў якаснай прадукцыяй.

**—Аляксандр Ільіч, толькі не пакрыўдуйце. Але з канвеера вашага прадпрыемства сходзіла і сходзіць прадукцыя, якая быццам бы не мае нейкага стратэгічнага значэння для беларускай эканомікі: гафрыраваны кардон, з якога робіцца тара...**

— Я вас запэўніваю, што вы памыляецеся ў сваім меркаванні. Па-першае, мы эканомім тысячы кубаметраў лесу, вырабляючы скрынкі з кардону замест дрэва і выкарыстоўваючы ў вытворчасці толькі небудаўнічую драўніну, яе адходы.

Па-другое, без упакоўкі зараз не абыходзіцца ні адзін тавар. Нездарма ж кажуць, што ўпакоўка — гэта нямы прадавец. Пакупнік прыходзіць у магазін і чытае на каробцы, што за тавар і з чым яго «ядуць». А па-трэцяе, акрамя тары для тавараў народнага спажывання на камбінаце выпускаецца шэраг спадарожнай прадукцыі: мяшкі з паперы, гаспадарчыя сумкі, папяровыя рулончыкі для аргтэхнікі, кардон для фільтрацыі харчовых вадкасцей: піва, сокаў, вінаматэрыялаў, віна, шампанскага, каньякоў і шмат чаго іншага. Дарэчы, яшчэ зусім нядаўна Светлагорскі цэлюлозна-кардонны камбінат працаваў у цеснай сувязі з ваенна-прамысловым комплексам Савецкага Саюза. Зараз гэтыя магутнасці застаюцца незапатрабаванымі.



Працягваючы тэму «абаронкі», зазначу наступнае: калісьці мы маглі б падняць народную гаспадарку рэспублікі, калі б наладзілі вытворчасць сотаў з паперы. Гэта такая геаметрычная канструкцыя, якая нагадвае пчаліныя соты. Як выявілася, такая канфігурацыя — самая лёгкая і трывалая ў прыродзе і таму выкарыстоўвалася ў будаўніцтве касмічных спадарожнікаў, а таксама ў вытворчасці будаўнічых панеляў, перагародак, якія замяняюць цаглянную кладку. Каб паглядзець і купіць абсталяванне для прыгатавання сотаў, у перабудовачны час нам прыйшлося паехаць у ЗША. На жаль, набыць патрэбнае абсталяванне беларускай дэлегацыі не ўдалося, паколькі каштавала яно даволі круглую суму. А для яе атрымання неабходны былі гарантыі ўрада... Не атрымалася. Час жа быў няпросты, і пры пераходзе да рынку ўраду было не да такіх праблем.

Як потым высветлілася, наша вытворчасць гафракардону мае пэўнае падабенства з будаўніцтвам сотаў. І ў час знаходжання ў ЗША ў мяне ўзнікла ідэя паспрабаваць зрабіць аналагічнае абсталяванне ў сябе на камбінаце. Прыехалі са Злучаных Штатаў, я сабраў творчую каманду і расказаў ёй пра свае задумкі. І лёд крануўся. Зараз мы самі робім соты.

Цікавая дэталь сакрэтнага заслона нашага ВПК: праз год пасля прыезду са Штатаў (здаецца, у снежні 1991 года) у адной эканамічнай газеце прачытаў аб'яву, што нейкая арганізацыя прапануе жадаючым набыць соты. Аказваецца, што ў Савецкім Саюзе яны выраблялiся ўжо больш як 50 гадоў таму. Не дзіўна, што па колькасці касмічных спадарожнікаў і самалётаў СССР быў наперадзе планеты ўсёй. Добра, што, хоць і са значным спазненнем, мы спусціліся з неба на зямлю і зараз выкарыстоўваем тыя ж соты не толькі ў будаўнічай галіне, але і ў вытворчасці ўпакоўкі для кінескопаў, халадзільных кампрэсараў і шмат чаго іншага.

**— Трэба меркаваць, што кола кліентаў на прадукцыю Светлагорскага камбіната даволі шырокае?**

— Вядома. Сёння мы працуем для тых, хто яшчэ працуе. Нашу тару ахвотна бяруць буйныя сталічныя прадпрыемствы — «Атлант», «Камунарка», «Крышталь», завод шампанскіх вінаў. Шчыра скажу, што ў рэспубліцы цяжка знайсці прадпрыемства, дзе абыходзяцца без прадукцыі СЦКК. Як вядома, усякі тавар патрабуе адпаведнай упакоўкі. Ад гэтага напрамую залежыць захаванасць прадукцыі.

**— Аляксандр Ільіч, яшчэ існуе такая думка, што ў даперабудовачныя часы па рабоце Светлагорскага камбіната можна было вывучаць геаграфію СССР, дастаткова было зайсці ў аддзел збыту.**

— Не буду з вамі спрачацца. Магчыма, і можна было такім чынам вывучаць геаграфію, хоць, безумоўна, лепш гэта рабіць з дапамогай карты і глобуса. А наогул, наша гафрыраваная тара ішла ва ўсе куткі былога Саюза для ўпакоўкі рыбы, халадзільнікаў і г. д. Дарэчы, расійскі рынак і зараз застаецца для нас адным з важнейшых. Не забываем і пра Украіну, Малдавію. Ведаеце, на нашым камбінаце на светлагорскі кардон наносіцца нават штрых-код Галандыі з прыгожым малюнкам шакаладнага батончыка «Марс». Так што і мы зараз не лыкам шытыя. Хоць такімі аб'ёмамі, як дзесятак гадоў таму, пахваліцца не можам. Затое ў шмат разоў узрасла разнастайнасць упакоўкі.

Таму асноўная задача, якая ставіцца перад работнікамі камбіната, — гэта павышэнне аб'ёмаў вытворчасці, якія апошнім часам былі страчаны амаль напалову... Сёння нам удаецца ні на дзень не затрымліваць зарплату амаль трохтысячнага калектыву, не мець даўгоў перад бюджэтам, запазычанасці за электраэнергію.

**— Нездарма, відаць, кажуць, што там, дзе добры гаспадар, і людзі жывуць па-людску.**

— Мне не хацелася б зараз хваліцца сваімі заслугамі перад іншымі. Ведаеце, у мяне прынцып работы такі: калі ты кіраўнік прадпрыемства — значыць у адказе за ўсіх падначаленых.

Спадзяюся, што работнікі камбіната не будуць на мяне крыўдаваць. Акрамя рэгулярнай зарплаты мы захавалі сацыяльную сферу прадпрыемства: тры дзіцячыя садкі, інтэрнат, пяць дамоў для маласямейных, санаторый-прафілакторый (сумесна з хімікамі), дзе штомесяц аздараўляецца каля 100 чалавек. І гэта



Панарама Светлагорскага ЦКК.

# ДУМАЙ, НАРОД, ДУМАЙ!



# Юрый Малумаў пра сітуацыю ў Вярхоўным Савеце і вакол рэферэндуму

***17 верасня парламент перажываў пэўны крызіс — вёўся збор подпісаў за адстаўку Прэзідыума, Сямён Шарэцкі папрасіў дэпутатаў пацвердзіць давер да яго, дэпутат П. Знавец запатрабаваў адстаўкі віцэ-спікера Ю. Малумава, які лічыцца чалавекам Прэзідэнта ў парламенце і яскрава праводзіць ягоную лінію. Аднак у сітуацыі з даверам Сямёну Шарэцкаму Ю. Малумаў заклікаў парламентарыяў не галасаваць за ўключэнне пытання аб адкліканні спікера з яго пасады. Аб матывах гэтых дзеянняў Юрыя Малумава, аб ацэнцы сітуацыі ў Вярхоўным Савеце і грамадстве ў цэлым у сувязі з намечаным рэферэндумам і процістаяннем галін улады наш карэспандэнт размаўляе з віцэ-спікерам беларускага парламента.***

**— Юрый Георгіевіч, як вы ўспрынялі прапанову дэпутата Паўла Знаўца аб вашай адстаўцы з пасады намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета?**

— Шчыра кажучы, для мяне гэта не было нечаканасцю. Гэта было не выпадкова, як і тое, што гэтая прапанова была «спушчана на тармазах». Рэальна цяпер у парламенце няма падзелу па ідэалагічных прыметах, парламент падзяліўся на дзве часткі па прынцыпу — за Прэзідэнта і супраць. Камуністы, аграрыі і дэмакраты аб'ядналіся і ў выніку атрымалі рэальную большасць, 107—112 дэпутатаў, якія добра дысцыплінаваныя, як у камуністаў ці ў «Грамадзянскім дзеянні». Удзельнічаюць у гэтай большасці часткова сацыял-дэмакраты, аграрыі, якія падтрымліваюць свайго лідэра Сямёна Шарэцкага. Я хацеў бы выказаць уласны пункт гледжання на гэта — я лічу амаральным тое, што лідэры процілеглых рухаў і партый здраджваюць сваім ідэалогіям дзеля палітычнага выйгрышу. У іх рэальная большасць, і, як ва ўсякім парламенце, думка меншасці не ўлічваецца, хаця ў культурных грамадствах да яе прыслухоўваюцца. Тыя, што падтрымліваюць Прэзідэнта, аказаліся ў меншасці і, натуральна, падвяргаюцца абструкцыі. Я з'яўляюся дастаткова зручнай фігурай для таго, каб ударыць па гэтай меншасці, паказаць ёй сваё месца. Не выпадкова з прапановай маёй адстаўкі выйшаў дэпутат Знавец, што мае імідж чалавека, не скаванага фракцыйнымі рашэннямі. Я не думаю, што гэта была толькі яго ініцыятыва. Але гэтую справу не давялі да канца па той прычыне, што фракцыі не захацелі ў чарговы раз паказаць сваё адзінства ў процістаянні Прэзідэнту. Акрамя таго, намеснікі Старшыні выбіраліся на свае пасады спісам, і таму пасля маёй адстаўкі маглі б прагучаць прапановы аб адстаўцы іншых, што вяло б да дэзарганізацыі працы ўсяго Вярхоўнага Савета...

**— Аднак каля сотні дэпутатаў падпісаліся за адстаўку Прэзідыума і С. Шарэцкага, што і прымусіла апошняга паставіць пытанне аб даверы да яго. Вы ж заклікалі дэпутатаў не галасаваць за ўключэнне ў парадак дня прапановы аб адкліканні Сямёна Георгіевіча з пасады. Гэты ваш учынак для многіх стаў нечаканым.**

— Пасля вядомага рашэння парламента аб рэферэндуме, калі многія дэпутаты былі абураны тым, як ішло галасаванне, якія былі арганізацыйныя няўвязкі, дэпутаты Малафееў і Касцян паставілі пытанне аб недаверы Прэзідыуму ў цэлым. За што? За тое, што за дзевяць месяцаў працы Прэзідыум, як адказны за арганізацыю працы парламента, не справіўся з гэтымі абавязкамі. Занадта многа законапраектаў уносіцца ў парадак дня з парушэннем закона. Магу нагадаць хаця б выбары В. Ганчара на пасаду старшыні Цэнтрвыбаркома, калі дэпутатаў увялі ў зман... Пачаўся збор подпісаў за адстаўку Прэзідыума. Збор подпісаў вёўся вялікай групай дэпутатаў, падтрымалі і многія члены фракцыі «Згода», і сабрана было, паводле маіх звестак, каля 90 подпісаў. Потым група дэпутатаў «Згоды» пачала прыпыняць гэты працэс.

**— Гэта была ваша асабістая ініцыятыва, ці вы ўзгаднялі яе з Прэзідэнтам?**

— Не, я не раіўся па гэтым пытанні з Прэзідэнтам, гэта было маё бачанне той сітуацыі. У законе няма механізма далейшых дзеянняў, калі Прэзідыуму выказаны недавер. Што гэта, адстаўка? Не. А якія дзеянні павінны быць пасля такога рашэння ВС у членаў Прэзідыума? З маральнага пункту гледжання кожны з іх як быццам павінен сысці, але гэта не можа адбыцца ў адзін момант, бо гэта шматэтапны працэс... Збор подпісаў ішоў зусім не за адстаўку Шарэцкага... Я быў адным з ініцыятараў прыпынення гэтага, сустракаўся і з Малафеевым, і з Касцянам, і з дэпутатамі, якія падпісалі гэты зварот, я пераконваў усіх, што ў дадзены момант нельга гэтага рабіць. Па-першае, ні закон, ні рэгламент, ні Канстытуцыя не прадугледжваюць сітуацыі, калі Вярхоўны Савет застанецца без Прэзідыума. Няма працэдуры, што далей рабіць. Гэта быў бы тупік, і парламент быў бы паралізаваны. Па-другое, праз некалькі дзён у Сямёна Георгіевіча будзе шасцідзесяцігадовы юбілей, як можна ў такі момант гэта рабіць, нягледзячы на тое, што хтосьці ім нездаволены. І я рад, што дабіўся таго, каб гэтае пытанне было адкладзена. Тым не менш, я заначыў на сесіі, што любы дэпутат ці група дэпутатаў мае права выказаць недавер любой службовай асобе ці органу ВС. Гэта парламенцкая працэдура... Калі ж пераходзіць на канкрэтную сітуацыю з Шарэцкім, то трэба прызнаць, што там ён дзейнічаў тактычна граматна і ўдала.

**— Ці азначае гэта, што камуністы і аграрыі ў чарговы раз перайгралі «Згоду»?**

— Ведаеце, бывае, што нечаканыя хады становяцца самымі эфектыўнымі. Так, ім удалося гэта лепш за нас, яны здолелі аб'яднацца, забыўшыся пра ідэалагічныя разыходжанні... Самае ж смешнае, што 2/3 дэпутатаў на выбарах казалі, што яны ідуць працаваць у цесным кантакце з Прэзідэнтам. Я думаю, што і цяпер большасць з іх у сваіх акругах гавораць, што яны з Прэзідэнтам, хаця не могуць прыняць там нейкі артыкул прапанаванага ім праекта Канстытуцыі. Частка дэпутатаў адкрыта не можа паставіць свой подпіс супраць Прэзідэнта. Вы думаеце, што выпадкова прынята цяпер такая высокая планка для таго, каб адбылося паіменнае галасаванне?..

**— Аднак матывацыя такой змены ў рэгламент была іншай — не сваіх выбаршчыкаў баяліся дэпутаты, а ціску з боку выканаўчай улады на месцах. У прыватнасці, аб гэтым шмат гавораць і В. Новікаў, і С. Шарэцкі...**

— Я магу на гэта адказаць толькі адно: стаў дэпутатам, атрымаў гарантыі сваёй дзейнасці — праяўляй сваю незалежнасць і вядзі сваю лінію. Баішся — не лезь. Ты абаронены законам. Калі на цябе націснуць — здолей гэта задакументаваць і даказаць. Гэта ўсё размовы, гэта зручная пазіцыя. Пэўным дэпутатам зручна «не высоўвацца», адсядзецца ў цяні, пачакаць, каб не быць разам з праіграўшым бокам...

**— Ведаеце, калі абстрагавацца ад канкрэтнай сітуацыі, то выглядала дзіўна, што вы, выступаючы на БТ як віцэ-спікер, крытыкавалі Вярхоўны Савет за антыканстытуцыйныя дзеянні 6 верасня. Чаму вы не маглі разабрацца ўнутры парламента?**

— Успомніце, як было: калі я ўбачыў праект пастановы, хутка зроблены ў час перапынку, я сказаў дэпутатам адразу, што мы няправільна дзейнічаем, парушаем Канстытуцыю, што трэба па звароту кожнага суб'екта прымаць асобную пастанову аб рэферэндуме. Мы можам адну дату потым назначыць для двух рэферэндумаў, але мы павінны разгледзець ініцыятыву Прэзідэнта аб рэферэндуме і назначыць дату. А мы з парушэннямі працэдуры прынялі пастанову аб адным рэферэндуме, якой ніхто не прасіў: 7 пытанняў, з іх два праекты Канстытуцыі...

**— Вядома, тут можа быць юрыдычная спрэчка, але яна павінна вырашацца ў Канстытуцыйным судзе.**

— А калі КС ужо выказаў сваю пазіцыю? Ён не меў права, але выказаўся, артыкулы В. Ціхіні пра гэта гавораць... Як я магу да іх звярнуцца пасля гэтага? У мяне застаецца цяпер адно права — звярнуцца да Вярхоўнага Савета, я ўжо сабраў пэўныя подпісы і, магчыма, унясу прапанову аб пераглядзе пастановы ад 6 верасня. Але я зраблю гэта, калі адчую, што ёсць нейкі кампраміс. Зараз гэта рабіць бессэнсоўна.

**— Юрый Георгіевіч, магчыма, юрыдычна тут можна па-рознаму тлумачыць сітуацыю з адзіным бюлетэнем на рэферэндуме, але, з палітычнага пункту гледжання, — хіба дрэнна, што людзі будуць мець магчымасць выбару з двух праектаў Канстытуцыі? Гэта ж дэмакратычна і гэта прадугледжвае лепшае веданне людзьмі саміх праектаў.**

— Ведаеце, а калі чалавек скажа «так» абодвум праектам: яму і той і другі спадабаўся?..

**— Значыць, ён не здольны выбіраць, не вывучыў іх...**

— Не можа быць, каб камусьці спадабаліся адразу два праекты. Калі гэта будзе адлюстравана ў адным бюлетэні, то Цэнтрвыбарком, паверце мне, будзе лічыць такія бюлетэні несапраўднымі. Гэта робіцца для таго, каб перашкодзіць магчымасці набраць падтрымку 50 працэнтаў выбаршчыкаў. Гэта зроблена наўмысна. І я лічу, што я, як дэпутат, тут маю права выказваць свой пункт гледжання па пытаннях работы парламента.

**— Што вы, у прыватнасці, і зрабілі на Беларускім тэлебачанні пасля прыняцця той пастановы, раскрытыкаваўшы Вярхоўны Савет. А як вы ставіцеся да таго, што вашы калегі В. Новікаў, Г. Карпенка, С. Калякін спрабавалі зрабіць гэтае ж, выступіўшы са сваім каментарыем па тэлебачанні, але так і не змаглі.**

— Я лічу, што ім трэба там даць магчымасць выступіць. Я пазваніў Г. Кісялю, і мне быў прадастаўлены час для тэлеэфіра. А ім — не. Што ж, гэта, напэўна, хібы той маладой дэмакратыі, якая ў нас ёсць... Прынялі мы рашэнне аб адказнасці: не прадастаўляецца эфір — давайце запускаць тыя механізмы, якія ў нас ёсць, калі хтосьці лічыць, што яго абдзялілі...

**— Вы заявілі, што ваша група папрапрэзідэнцку настроеных дэпутатаў знаходзіцца ў меншасці і падвяргаецца абструкцыі. Гэта, скажам так, хібы дэмакратыі. Разам з тым прэзідэнцкая каманда змагаецца такім чынам з апазіцыяй у маштабах краіны — шляхам рэферэндуму, на якім мяркуецца сабраць большасць, каб падвергнуць такой жа абструкцыі меншасць. Ці не так?**

— Я гавару на працягу верасня толькі пра адну рэч: Прэзідэнт вырашыў выкарыстаць сваё права прамога звароту да народа, звярнуўся да парламента і мы абавязаны былі даць яму гэтую магчымасць. Парламент быў павінен толькі назначыць дату рэферэндуму па прапанаванаму праекту Канстытуцыі, падабаецца ён яму ці не. Я лічыў, што калі мы з захаваннем закона назначым рэферэндум, пачнецца перыяд абмеркавання варыянтаў Канстытуцыі, мы правядзём парламенцкія слуханні, выкажуцца дэпутаты, усё будзе абагульнена, на гэтай базе распачнецца пошук згоды, змяненне фармулёвак, сустрэчы... І мы выйдзем з падагульняючым варыянтам. На гэты ж момант Прэзідэнту парламентам толькі ставяцца палкі ў колы: яму не даюць магчымасці правесці нармальны рэферэндум, пагутарыць з народам.

**— Ведаеце, і сам Прэзідэнт, і яго памочнікі неаднаразова падкрэслівалі: мы выйграем рэферэндум. Гэта што, гульня?**

— Гэта спецыфіка той сітуацыі, у якой мы знаходзімся, калі замест звычайнага дэмакратычнага мерапрыемства, у якім няма антаганізму і няма двух бакоў, адзін з якіх выйграе, а другі прайграе. Так, было арганізавана спаборніцтва двух бакоў. І зрабіла гэта ў першую чаргу кіраўніцтва парламента, парламент жа ўнёс саперніцтва ў рэферэндум. Праект аграрыяў і камуністаў быў вынесены як альтэрнатыўны прэзідэнцкаму.

**— Але калі глянуць на сітуацыю больш груба: Прэзідэнт прапанаваў у сваім праекце Канстытуцыі ліквідаваць Вярхоўны Савет і расшырыць свае паўнамоцтвы за кошт яго. Парламент выставіў альтэрнатыву ў форме праекта, які прадугледжвае ліквідацыю пасады Прэзідэнта. Хіба ж не такой была б рэакцыя парламента ў любой іншай нармальнай краіне?**

— На мой погляд, нармальнай рэакцыяй было б назначыць дату рэферэндуму, выканаць свой канстытуцыйны абавязак, а потым звяртацца да народа, уносіць свае папраўкі, выступаць у сваіх акругах...

**— Гэта фармальна. А па сутнасці вы згодны з прыведзенай трактоўкай сітуацыі?**

— Ведаеце, у нас устаноўлена форма кіравання — прэзідэнцкая рэспубліка з пэўнымі паўнамоцтвамі Прэзідэнта, парламента, суда... У 1994 годзе, калі прымалі Канстытуцыю, ішоў торг паміж моцнымі Вярхоўным Саветам і Саўмінам, і вострыя вуглы згладжваліся. Няма дакладнай мяжы паміж кампетэнцыяй парламента і Прэзідэнта. Колькі спрэчак выклікае фармулёўка, што Прэзідэнт — кіраўнік дзяржавы і выканаўчай улады.

Адны кажуць: мы ваюем з кіраўніком выканаўчай улады, з Прэзідэнтам. Прэзідэнт прапануе пераразмеркаванне функцый галін улады, дакладны іх падзел і дакладнае вызначэнне яго паўнамоцтваў як кіраўніка дзяржавы. Форма кіравання застаецца той жа. А што прапанавалі ў адказ дэпутаты? Дзякуй Богу, што яны прапанавалі гэта на рэферэндуме, а не скарысталіся сваім правам прыняць новую Канстытуцыю і ліквідаваць пасаду Прэзідэнта. Пры жывым, выбраным народам Прэзідэнце дэпутаты прапануюць пазбавіцца ад яго, нягледзячы на тое, што за яго прагаласавала звыш 4 мільёнаў выбаршчыкаў... Прапануецца не пераразмеркаванне паўнамоцтваў, а змена формы кіравання ў краіне, захоп і ўзурпацыя правоў кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады парламентам. Іншымі словамі, парламенцкі пераварот з усімі адсюль наступствамі...

**— Вы так гаворыце, як быццам не Прэзідэнт, а Вярхоўны Савет першы выйшаў з новым праектам Канстытуцыі, і як быццам Прэзідэнт не прэтэндуе на паўнамоцтвы парламента...**

— Яшчэ раз падкрэслю: у працэсе ўзгаднянальнай працы парламента і Прэзідэнта можна было б дамаўляцца, можна было б змагацца на рэферэндуме, даказваць сваё. Гэта быў бы нармальны, законны шлях, а цяпер пайшлі гульні, спаборніцтва, падзел грамадства папалам...

**— Цяпер фракцыі аграрыяў і камуністаў прапануюць кампраміс — нулявы варыянт, адкліканне абодвух праектаў Канстытуцыі, стварэнне пагаджальнай камісіі.**

— Я не магу назваць гэты варыянт нулявым. Ён — мінус пяць для Прэзідэнта, плюс пяць для парламента — паводле палітычных, маральных вынікаў такога кампрамісу. Атрымаецца, што парламент выйграе.

**— А можа, гэта будзе плюс дзесяць для нашага грамадства, якое пазбегне расколу?**

— Тут якраз нуль для грамадства. Мы вяртаемся да дзеючай Канстытуцыі, у якую ўсе (Прэзідэнт, парламент) лічаць неабходным унесці змены. Прапануецца адклікаць абодва праекты... Вобразна кажучы, трэба прыпыніць кола, якое закруцілася, у абмен на тое, якая будзе выцягнута з яго палка, што была ўстаўлена ў спіцы. Я прапаноўваў нулявы варыянт у другой інтэрпрэтацыі: яны адклікаюць свой праект, ствараецца пагаджальная камісія, дэпутаты даюць прапановы па зменах у прэзідэнцкі праект. Я лічу, што парламент павінен адыграць назад і зняць перашкоды перад прэзідэнцкім рэферэндумам. І шукаць кампрамісны варыянт.

**— Але ці не было б больш правільным «танцаваць» не ад праектаў, а ад дзеючай Канстытуцыі, якой ніхто не адмяняў?**

— Тут размова і ідзе аб гэтай Канстытуцыі, але са зменамі і дапаўненнямі, прапанаванымі Прэзідэнтам.

**— Гэтыя змяненні і дапаўненні ваш кіраўнік С. Шарэцкі назваў прававой асновай для стварэння рэжыму дыктатуры ў Беларусі.**

— Ні ў якім разе я так не лічу. Дыктатура можа існаваць і пры самых лепшых тэкстах Канстытуцыі, якія існуюць на паперы... Размова не пра форму, а пра рэальнае яе напаўненне.

**— Тым не менш, ці лічыце, што ёсць шанц спыніць канфрантацыю і знайсці паразуменне дзвюх галін улады?**

— Я ўпэўнены ў гэтым. Я думаю, гэта магчыма ў выпадку прыняцця таго варыянта, аб якім я гаварыў, і пачатку работы пагаджальнай камісіі.

**— Ведаеце, сітуацыя, якая ў нас склалася, параўноўваецца з расійскімі падзеямі восені 1993 года. Ці не лічыце вы, што і ў нас можа атрымацца расійскі варыянт?**

— Думаю, што не. Хачу верыць, што не, і, пралічваючы сітуацыю, мяркую, што гэта немагчыма. Я веру, што яшчэ не вычарпаны ўсе шляхі для кампрамісу.

**Размаўляў**
**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

---

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

*19 верасня 1996 года*

### АБ ПАРАДКУ ВЫСТУПЛЕННЯЎ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МЯСЦОВАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ РАДЫЁВЯШЧАННЮ

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў адзначае, што кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, зыходзячы з патрабаванняў часткі чацвёртай артыкула 43' Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», прадставіла ў Цэнтральную камісію ліміт часу для выступленняў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па мясцоваму дзяржаўнаму радыёвяшчанню, а менавіта кожнаму кандыдату ў дэпутаты да 5 мінут эфірнага часу ў рамках вяшчання абласных тэлерадыёаб'яднанняў.

У адпаведнасці з часткай пятай артыкула 43' Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **пастанаўляе:**

1. Кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з часу іх рэгістрацыі маюць права на адно выступленне па мясцоваму дзяржаўнаму радыёвяшчанню працягласцю да 5 мінут.

Падставай для выступлення па мясцоваму дзяржаўнаму радыёвяшчанню з'яўляецца пасведчанне кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго пісьмовая просьба кіраўніцтву адпаведнага абласнога тэлерадыёаб'яднання, а ў горадзе Мінску і Мінскай вобласці — Галоўнай рэдакцыі вяшчання на Мінск і Мінскую вобласць Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, якая падаецца не пазней чым за пяць дзён да выступлення. Пры гэтым павінна забяспечвацца выступленне кандыдатаў у дэпутаты на роўных падставах і захоўвацца чарговасць прадстаўлення часу вяшчання, зыходзячы з часу паступлення пісьмовых просьбаў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

2. У межах прадстаўляемага часу вяшчання кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь самастойна вырашае змест інфармацыі, звязанай з перадвыбарнай агітацыяй.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ**

---

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

*19 верасня 1996 года*

### АБ ПАРАДКУ ЗМЯНЕННЯЎ САСТАВУ КАМІСІЙ ПА РЭФЕРЭНДУМУ

На падставе пункта 2 артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **пастанаўляе:**

1. Асоба, якая ўваходзіць у састаў камісіі па рэферэндуму, павінна вызваляцца ад выканання сваіх абавязкаў у камісіі па асабістай заяве, а таксама ў выпадку адклікання або пазбаўлення паўнамоцтваў.

Вызваленне асобы, якая ўваходзіць у састаў камісіі па рэферэндуму, па асабістай заяве, пазбаўленне яе паўнамоцтваў пры парушэнні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» або сістэматычным невыкананні сваіх абавязкаў праводзіцца органам, што ўтварыў камісію па рэферэндуму.

2. Пры выбыцці асобы з саставу камісіі па рэферэндуму (па ўказаных і іншых прычынах) можа праводзіцца вылучэнне новага прадстаўніка ў састаў камісіі па рэферэндуму ў парадку, прадугледжаным часткай другой артыкулаў 18, 20 і 23 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь».

3. Змяненні ў саставах абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх, раённых у гарадах і ўчастковых камісій па выбарах дэпутатаў Саветаў, якія адначасова ажыццяўляюць паўнамоцтвы камісій па рэферэндуму, праводзяцца органамі, што ўтварылі гэтыя камісіі, з улікам меркаванняў прэзідыумаў адпаведных Саветаў дэпутатаў.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ**

# АДКРЫЛАСЯ ПЕРШАЯ Ў НАШАЙ КРАІНЕ ПОЛЬСКАЯ ШКОЛА

Ва ўрачыстай цырымоніі, якая з гэтай нагоды адбылася ў Гродне 21 верасня, удзельнічалі кіраўнік беларускага ўрада Міхаіл Чыгір і яго польскі калега Уладзімеж Цімашэвіч. Старшыня Савета Міністраў Польшчы перадаў школе бібліятэку, відэакасеты і падарункі ад грамадскіх арганізацый, выказаўшы спадзяванне, што сюды пойдуць дзеці яго сваякоў, якія пражываюць у Гродне. З прывітаннем ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі да прысутных звярнуўся Сямён Домаш.

Першы камень у падмурак польскай школы быў закладзены гродзенскім будтрэстам № 30 год назад. Індывідуальны праект выкананы інстытутам «Гроднаграмадзянпраект». Фінансаванне будоўлі (а гэта каля двух мільёнаў долараў) забяспечыла грамадская арганізацыя «Вспульнота польска». Далейшае ўтрыманне школы бярэ на сябе Гродзенскі гарвыканком. У недалёкай будучыні плануецца будаўніцтва другой чаргі школы, дзе прадугледжаны чатыры пакоі на 120 вучняў, інтэрнат для дзяцей з раёнаў вобласці, дзіцячы садок на 80 месцаў, стадыён, басейн.

Дарэчы, перад прыездам у Гродна Міхаілу Чыгіру і Уладзімежу Цімашэвічу быў наладжаны цёплы прыём у пасёлку Клешчале Беластоцкага ваяводства, дзе ў тутэйшай школе вучацца дзеці беларусаў. Прэм'ер-міністр Беларусі перадаў навучэнцам камп'ютэр і літаратуру на беларускай мове.



У час сустрэчы ў школе пасёлка Клешчале.

Фота БЕЛТА.

Потым давялося пачуць, што гэтая школа аналагічная той, якую адкрылі ў Гродне. Але гэта не зусім так. У адрозненне ад гродзенскай школы, дзе ўсе прадметы (за выключэннем беларускай і рускай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі і адной з моў так званага далёкага замежжа) будуць выкладацца па-польску, школу ў Клешчале нельга назваць беларускамоўнай. Проста частка дзяцей будзе вывучаць беларускую мову. Напэўна, бацькам, якія, само сабой, з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы, гэтага дастаткова. А вось беларускім палякам, як бачым, хочацца большага. Аднак ці не ўзнікне ў выпускнікоў польскай школы цяжкасцей з паступленнем у беларускія ВНУ, дзе экзамены па матэматыцы альбо хіміі наўрад ці будуць прымацца па-польску? Ці разлік робіцца на тое, каб працягваць вучобу ў Польшчы?

Акрамя школьных пытанняў, у праграме сустрэчы кіраўнікоў урадаў Беларусі і Польшчы былі таксама праблемы, звязаныя, у прыватнасці з паляпшэннем становішча на дзяржаўнай мяжы, з разлікамі паміж суб'ектамі гаспадарання абедзвюх краін у нацыянальных валютах.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# ПРЭЗІДЭНТ ПАВІНШАВАЎ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА «СОВЕТСКОЙ БЕЛОРУССИИ»

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне галоўнаму рэдактару газеты «Советская Белоруссия» Паўлу Якубовічу ў сувязі з яго 50-годдзем.

«Вось ужо два дзесяцігоддзі Ваш голас гучыць са старонак буйнейшых газет краіны, выклікаючы рэзананс у мільёнаў чытачоў. Перакананы, што Ваш прафесіянальны і чалавечы аўтарытэт будзе яшчэ доўга і плённа служыць нашай роднай Беларусі», — гаворыцца ў віншаванні.

Прэзідэнт пажадаў П. Якубовічу здароўя і новых поспехаў у рабоце.

**БЕЛТА.**

***

***Рэдакцыя газеты «Звязда» таксама віншуе калегу з нагоды 50-годдзя і жадае Паўлу Ізотавічу Якубовічу плёну ў працы, здароў'я.***

## АДНЫМ СКАЗАМ

У наступным годзе плануецца стварыць **спецаддзел для падтрымкі малога бізнесу,** аб'ём сродкаў якога складзе каля 2 трыльёнаў рублёў.

На канец жніўня **доўг** рэспублікі Расіі **за электраэнергію** склаў 60 мільярдаў 849 мільёнаў рублёў, Літве — 24 мільярды 927 мільёнаў рублёў.

Да канца бягучага года **на прадастаўленне субсідый** грамадзянам, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, і **на будаўніцтва жылля** ў сельскай мясцовасці будзе накіравана не менш як 150 мільярдаў рублёў.

У многіх сельскіх Саветах Гомельскай вобласці колькасць грамадзян пасляпенсіённага ўзросту **перавышае крытычны парог** — 40 і больш працэнтаў.

На 1 верасня ў Беларусі злавілі за руку **9960 браканьераў,** якія лавілі рыбу, аштрафаваны яны на 1 мільярд 287 мільёнаў 31 тысячу рублёў.

На сённяшні дзень у рэспубліцы налічваецца **100.547 шматдзетных сем'яў,** якія выхоўваюць дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў.

У Злучаных Штатах сёння зафіксавана **самая высокая заражальнасць СНІДам:** на аднаго ВІЧ-інфіцыраванага — каля 70 здаровых.

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

# «ФОРД ЮНІЁН» ЗГОРТВАЕ СВАЮ СПРАВУ

Калі чуткі з'яўляюцца — значыць гэта некаму патрэбна. Па словах генеральнага дырэктара СП «Лада ОМС» Аляксея Ваганава, гэта справа «праклятых канкурэнтаў». Гэтай жа думкі прытрымліваецца член праўлення СП «Форд Юніён», ён жа міністр прадпрымальніцтва і інвестыцый Аляксандр Сазонаў. Спадар Сазонаў адзначыў, што ніякіх змяненняў у планах не адбылося. Генеральны дырэктар СП «Форд Юніён» Ніл Кэмпбел паведаміў, што сёння вядуцца будаўнічыя работы ў адпаведнасці з графікам: узводзяцца сцены завода, адбываецца аддзелка офісных памяшканняў. Пачалася пастаўка абсталявання, камплектуючых, а таксама набор рабочых. Спадар Кэмпбел заначыў, што ўсе кандыдаты на работу ў СП павінны валодаць англійскай мовай. Да зборкі першага ўзорнага аўтамабіля, па словах генеральнага дырэктара, на прадпрыемстве прыступяць 4 красавіка наступнага года, а серыйная вытворчасць пачнецца ў канцы ліпеня.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## СПОРТ

# МАЛАДЫ ДЫ «СПЕЛЫ»

Не так часта здараецца, каб клубы прэстыжнай Нацыянальнай хакейнай лігі запрашалі да сябе беларускіх спартсменаў. Тым не менш, факт застаецца фактам: абаронца зборнай Беларусі Руслан Салей падпісаў трохгадовы кантракт з «энхаэлаўскай» камандай «Анахайм».

Як расказала ўчора ў тэлефоннай размове з карэспандэнтам «Звязды» маці хакеіста, днямі Руслан адправіўся за акіян і зараз знаходзіцца на трэніровачным зборы з камандай. Фінансавы бок падпісанага кантракта пакуль што трымаецца ў тайне. У мінулым годзе 21-гадовы беларускі хакеіст выступаў за клуб Інтэрнацыянальнай хакейнай лігі «Лас-Вегас» і заняў шостае месца ў намінацыі «Лепшы навічок сезона».

**Алесь СІВЫ.**

# «ПІСЬМЕННІК, МОВА, СТЫЛЬ»

**Міжнародная навуковая канферэнцыя пад такой назвай прайшла на мінулым тыдні ў Мінску. Яе арганізатарамі былі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт і Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт, а прысвячалася яна 70-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага вучонага, доктара філалагічных навук прафесара Льва Шакуна.**

Акрамя вучоных і даследчыкаў нашай рэспублікі ў канферэнцыі прынялі ўдзел госці з Расіі і Польшчы. На пленарным пасяджэнні і пасяджэннях секцый з цікавымі паведамленнямі і дакладамі выступілі народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, член-карэспандэнт Акадэміі навук рэспублікі Алег Лойка, прафесар Вроцлаўскага універсітэта (Польшча) Ларыса Пісарэк, вучоны з Петразаводска Зіновій Тарланаў, беларускія навукоўцы — дактары філалагічных навук Браніслаў Плотнікаў, Адам Супрун, Аркадзь Наркевіч, Анатоль Гіруцкі, Віктар Красней, Уладзімір Анічэнка, Ніна Мячкоўская і іншыя.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, да пачатку канферэнцыі былі выдадзены асобным зборнікам тэзісы дакладаў і паведамленняў яе ўдзельнікаў, якія даволі прыхільна сустрэты навуковай грамадскасцю. Бо сёння выданне такіх зборнікаў — ужо вялікая «раскоша»...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# ЗАЦЬМЕННЕ МЕСЯЦА Ў НОЧ НА 27 ВЕРАСНЯ

**У ноч на 27 верасня (пасля 4 гадзін) адбудзецца поўнае зацьменне Месяца, калі ён будзе знаходзіцца ў заходняй частцы неба. Зацьменне будзе бачна на ўсёй тэрыторыі Беларусі.**

Аналагічныя «незвычайныя нябесныя з'явы» назіраліся і апісваліся яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Але нават тады, калі жрацы навучыліся іх прадказваць, яны выклікалі ў людзей забабонны страх. Месяц раптам станавіўся чырвоным, быццам абліваўся крывёй. Сёння добра вядома, што заканамернасці месячных зацьменняў тлумачацца рухам Месяца вакол Зямлі і нашай планеты — вакол Сонца. Вось чаму часам Месяц трапляе ў цень, які адкідвае Зямля. Праламляючыся і часткова слабеючы ў атмасферы нашай планеты, сонечныя прамяні надаюць месяцавай паверхні згаданы незвычайны колер.

**Уладзімір ЛАРЫЁНАЎ, БелаПАН.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ДВОЕ РАСІЙСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ АДМОВІЛІСЯ ВЯРТАЦЦА НА РАДЗІМУ

У Чачні аднавіўся абмен ваеннапалоннымі. Чачэнскі бок вызваліў 13 расійскіх вайскоўцаў. Як перадало ІТАР-ТАСС, двое вызваленых вайскоўцаў унутраных войскаў — Канстанцін Лімонаў і Руслан Калачкоў адмовіліся вяртацца дадому. Пры гэтым яны заявілі, што прынялі іслам і вырашылі застацца ў Чачні. Узамен іх расійскаму боку былі перададзены двое іншых ваеннапалонных. Расійскі бок вызваліў пяць чалавек, у тым ліку двух чачэнскіх журналістаў, якіх 31 жніўня арыштавалі ў Махачкале.

### У СТРАСБУРГУ ПРАБЛЕМЫ ЧАЧНІ РАЗГЛЯДАЦЦА НЕ БУДУЦЬ

На сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая адкрылася ўчора ў Страсбургу, сітуацыя ў Чачні абмяркоўвацца не будзе. Такое рашэнне было прынята ў сувязі з тым, што ні начальнік штаба чачэнскіх узброеных фарміраванняў Аслан Масхадаў, ні сакратар Савета бяспекі Аляксандр Лебедзь не прыбылі ў Страсбург. Расійская дэлегацыя была супраць абмеркавання праблем Чачні на сесіі, назваўшы гэта ўмяшаннем ва ўнутраныя справы Расіі.

### АПЕРАЦЫЮ ЕЛЬЦЫНУ РАБІЦЬ НЕ БУДУЦЬ?

Адміністрацыя прэзідэнта Расіі адмаўляецца каменціраваць заяву кардыёлага Рэната Акчурына наконт таго, што маючую адбыцца аперацыю Ельцыну, магчыма, прыйдзецца перанесці на паўтара-два месяцы з-за нездавальняючага стану здароўя прэзідэнта, а магчыма і ўвогуле адмяніць. Прадстаўнік прэзідэнцкай адміністрацыі сказаў журналістам, што каментарыя на гэту тэму не будзе да рашэння кансіліуму расійскіх і замежных спецыялістаў, які збіраецца на гэтым тыдні.

### У ПАКІСТАНЕ КІРУЕ ХАОС

Больш за 20 чалавек загінулі і 39 атрымалі раненні падчас нападу на адну з мячэцяў у пакістанскім горадзе Мултан. Чатыры чалавекі, якія ўварваліся ўчора на світанні ў мячэць, адкрылі бязладны агонь па верніках, а потым уцяклі. Апошнія дні ў Пакістане становішча вельмі напружанае. У канцы мінулага тыдня ў перастрэлцы з паліцыяй у Карачы загінуў брат прэм'ера Пакістана. Хваляванні, якія пачаліся падчас яго пахавання, працягваюцца дагэтуль.

### ХТО ЎЗНАЧАЛІЦЬ ААН?

Расія падтрымлівае кандыдатуру Бутраса Галі на пасаду генеральнага сакратара ААН яшчэ на адзін тэрмін. Аднак, як заявіў міністр замежных спраў Расіі Яўген Прымакоў, Масква вымушана звярнуць увагу на пазіцыю Злучаных Штатаў у гэтым пытанні. ЗША ўжо не аднаразова афіцыйна заяўлялі, што не падтрымліваюць выбрання на гэту высокую пасаду спадара Галі і гатовы ў выпадку неабходнасці выкарыстаць права вета. На пытанне журналістаў аб кампрамісе Прымакоў заявіў, што калі хтосьці гаворыць аб праве вета, то кампраміс залежыць да таго боку, які збіраецца выкарыстаць гэта права, а не ад Расіі.

### АРМЕНІЯ: ЛІДЭРЫ НА ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАХ ВЫЗНАЧЫЛІСЯ

У нядзелю ў Арменіі адбыліся выбары прэзідэнта рэспублікі. Паводле даных цэнтральнай выбарчай камісіі, у галасаванні ўзялі ўдзел усяго 52,95 працэнта выбаршчыкаў. Падлік галасоў працягваецца. Паводле папярэдніх даных, асноўная частка выбаршчыкаў выказалася за Петрасяна і экс-прэм'ера рэспублікі, лідэра нацыянал-дэмакратаў Мунукяна. Кіраўнік кампартыі Багаран і былы галоўны дарадца прэзідэнта Манугаран аказаліся аўтсайдэрамі.

### ЭНЕРГЕТЫКІ АБЯЦАННЯМ ГУБЕРНАТАРА НЕ ВЕРАЦЬ

Роўна тры тыдні працягваецца галадоўка на буйнейшай у краі Прыморскай ГРЭС. У ёй бяруць удзел 123 чалавекі. Беспрэцэдэнтная па працягласці акцыя падарвала здароўе энергетыкаў — паводле даных урачоў, большасці з іх ужо неабходна лячэнне. Адмова ад яго пагражае хранічнымі захворваннямі і нават лятальным зыходам. Між тым, энергетыкі адмаўляюцца спыніць акцыю да выплаты ім зарплаты.

***Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Ці можна гарэлкай тушыць пажар? Ні ў якім разе. Гэта зразумела кожнаму. Але польскі сейм вырашыў падтрымаць сваіх пажарных менавіта з дапамогай алкаголю, надзяліўшы іх правам... гандляваць спіртнымі напоямі. Асабліва гэта важна, лічаць, для дзеючага ў вёсках Таварыства добраахвотнай пажарнай аховы, якому вельмі патрэбна фінансавая падтрымка. А ўвогуле атрымліваецца нешта накшталт лозунга: «Ударым гарэлкай па пажарах!»

**ІТАР-ТАСС**

*Згодна са статыстыкай, за апошнія тры гады ізраільцяне, калі браць іх «агульную масу», пахудзелі на сем мільёнаў кілаграмаў. Толькі ў мінулым годзе яны патрацілі 100 мільёнаў шэкеляў (каля 30 мільёнаў долараў) на розныя дыеты і іншыя спосабы зніжэння вагі. Дыеты ў той ці іншай меры прытрымліваюцца 16 працэнтаў насельніцтва. Прычым толькі адзін з пяці чалавек папярэдне параіўся з урачом-дыетолагам або хаця б з сямейным урачом. Астатнія дзейнічаюць па свайму разуменню або скарыстаўшы рэкамендацыі розных фірмаў, якія спецыялізуюцца на вырабе і продажы дыетычных прадуктаў харчавання.*

**«Труд»**

Рэдкі выпадак у барацьбе музыкантаў за свае правы адбыўся ў ЗША. Упершыню за апошнія 30 гадоў прынілі працу і забаставалі музыканты Філадэльфійскага аркестра, якія лічыцца адным з лепшых у свеце. Музыканты не згодны з умовамі новых кантрактаў.

**ІТАР-ТАСС.**

**50**

*Рэдакцыя газеты «Звязда» віншуе ўласнага карэспандэнта **Сымона Сцяпанавіча СВІСТУНОВІЧА** з 50-годдзем з дня нараджэння і жадае яму новых творчых поспехаў на ніве пяра і пэндзля. Для тых, хто не ведае: наш уласны карэспандэнт — член Саюза мастакоў Беларусі.*

*Віншуем з 60-годдзем **Аляксандра Якаўлевіча НОВІКАВА** з в. Кабанаўка Жлобінскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, радасці і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Жонка, дочкі і ўнукі.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.57 | 19.05 | 12.08 |
| Віцебск – | 6.47 | 18.56 | 12.09 |
| Магілёў – | 6.47 | 18.55 | 12.08 |
| Гомель – | 6.46 | 18.50 | 12.04 |
| Гродна – | 7.14 | 19.18 | 12.04 |
| Брэст – | 7.13 | 19.21 | 12.08 |

### МЕСЯЦ

Першая квадра 20 верасня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Сілуана Афонскага, Сергія і Германа Валаамскіх

К. Руперта, Герарда

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца павелічэнне воблачнасці, па паўднёва-заходняй палавіне дажджы. Тэмпература паветра ў Магілёве і Віцебску — 8—10, Мінску — 9—11, Гродне, Гомелі — 10—12, Брэсце — 11—13 градусаў.

У наступныя двое сутак воблачнае з праясненнямі надвор'е. 25-га ўначы — у паўднёвых і цэнтральных раёнах, удзень і 26-га на працягу сутак — на большай частцы тэрыторыі дождж. Тэмпература ўначы — 3—8, 25-га па Віцебскай вобласці месцамі замаразкі да 0 — мінус 2; удзень — 8—13 градусаў цяпла.

